# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 19 лістапада 1994 года | №124 (10824) | Цана 50 руб.


■ Заўтра — Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці













# ПАКЛОНІМСЯ, ЛЮДЗІ, СЕЛЯНІНУ!

**Анатоль ЖУК,**

**першы намеснік старшыні аблвыканкома, старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Перад прафесійным святам тых, хто працуе ў сельскай гаспадарцы і перапрацоўчай прамысловасці, можна падвесці вынікі адыходзячага года, падзякаваць работнікам гэтай сферы за іх добрасумленную працу.

Вяскоўцы з поўным правам заслужылі гэтую падзяку.

Усім нам сёння цяжка, але ў асабліва складанай сітуацыі аказаліся працаўнікі палёў і ферм.

Сёлетні год для іх быў складаным з-за ўмоў надвор'я. Але яшчэ больш ускладніла абставіны эканамічная нестабільнасць, якая ўзнікла ў рэспубліцы і краінах СНД. Парушэнне ранейшых гаспадарчых сувязей парадзіла цэнавае бязмежжа, стварыла непарытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, выклікала сур'ёзныя збоі ў сістэме фінансава-крэдытнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Запазычанасць калгасаў і саўгасаў па кароткатэрміновых пазыках на 1 лістапада склала 6,3 мільярда, па доўгатэрміновых — 4,8 мільярда рублёў.

Фінансавае становішча, якое склалася ў сельскай гаспадарцы, не дазваляе ў поўнай меры стымуляваць працу селяніна. У выніку заработная плата ў калгасах за дзесяць месяцаў склала 57, а ў саўгасах — 75 працэнтаў у параўнанні з прамысловасцю.

Вынікам гэтых катаклізмаў з'явіўся далейшы спад вытворчасці ў сельскай гаспадарцы.

Аднак нягледзячы на ўсе складанасці працаўнікі аграпрамысловага комплексу з вялікай адказнасцю трымаюць нялёгкі экзамен, які прыпадносіць наш час. Мяркуйце самі. З кожнага гектара сабрана па 28 цэнтнераў збожжавых, а валавы збор зерня склаў 1 мільён 398 тысяч тон. Ураджайнасць бульбы (па вядомай прычыне) — 98, цукровых буракоў — 157, кармавых караняплодаў — 288, агароднiны — 144 цэнтнеры з гектара.

Спад вытворчасці істотна ўскладніў дзейнасць перапрацоўчай галіны АПК. Аднак кансервавыя і мяса-малочныя прадпрыемствы, ільнозаводы, прадпрыемствы харчовай прамысловасці пастутова нарошчваюць выпуск прадукцыі, абнаўляюць яе асартымент.

Імкнучыся падтрымаць жыццёвы ўзровень працаўнікоў вёскі, усе гаспадаркі вобласці павялічылі прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў і работнікаў саўгасаў. Павялічана натуральная аплата працы.

Нягледзячы на цяжкасці работнікі аграпрамысловага комплексу шукаюць выхад са складанага становішча. Адбываецца рэфармаванне калгасаў і саўгасаў для работы ў рынычных умовах. У многіх гаспадарках вызначаны долевы маёмасны і зямельны фонды працаўнікоў. З мэтай атрымання дадатковых даходаў калгасы і саўгасы ствараюць малыя прадпрыемствы, падсобныя цэхі, кааператывы. На перапрацоўчых прадпрыемствах дзейнічаюць акцыянерныя таварыствы. У вобласці вялікая ўвага надаецца фермерскім гаспадаркам. Сёлета ім выдзелена 1,9 мільярда рублёў і 2,2 мільярда рублёў — ільготнай пазыкі. Многія фермеры ўмела вядуць сваю гаспадарку. Напрыклад, браты Аўдзеі з Клецкага, Аляксандр Свірыдаў — з Пухавіцкага, Мікалай Крапіўны — з Чэрвеньскага, Пётр Станкевіч — з Лагойскага раёнаў і многія іншыя.

У тым, што зроблена ў вёсцы, дасягнута ў сферы перапрацоўкі прадукцыі, значная заслуга ветэранаў вытворчасці. Многія з іх, знаходзячыся на пенсіі, працягваюць працаваць у паляводстве, жывёлагадоўлі, у цэхах прадпрыемстваў, на асабістых падворках, чым заслугоўваюць вялікай падзякі, павагі і ўвагі да сябе.

Цяпер, як ніколі раней, многае залежыць ад кіраўніка працоўнага калектыву. Абсалютная большасць іх — аўтарытэтныя, адданыя сваёй нялёгкай справе людзі. Вось некаторыя з іх.

Кузьма Іванавіч Шаплыка — старшыня калгаса "Чырвоная змена" Любанскага раёна, які 50 гадоў умела кіруе гаспадаркай, Леанід Іванавіч Кадлубовіч — старшыня калгаса імя Дзяржынскага Дзяржынскага раёна, Уладзімір Мікалаевіч Янчанка — старшыня калгаса "Чырвоны навасёлец" Барысаўскага раёна, Іосіф Іосіфавіч Плаўскі — дырэктар дзяржплемзавода "Чырвоная зорка" Клецкага раёна, Валянцін Альфонсавіч Стыдзель — старшыня калгаса імя Войкава Мінскага раёна, Мікалай Ільіч Васілевіч — старшыня калгаса "Ленінскі шлях" і Анатоль Пятровіч Радзюк — старшыня калгаса "Рачкавічы" Слуцкага раёна, Уладзімір Пятровіч Лысы — старшыня калгаса імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна, Анатоль Васільевіч Чалдышкін — старшыня калгаса "Бальшавік" Салігорскага раёна і многія іншыя.

І ўсё ж галоўнае, што хвалюе сёння аблвыканком, калегію абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання, — як найбольш хутка навучыць кіраўнікоў і спецыялістаў усіх узроўняў АПК працаваць у гэтых неймаверна цяжкіх умовах.

Віншуючы са святам — Днём работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці ўсіх, хто жыве і працуе ў вёсцы, на прадпрыемствах і ў арганізацыях АПК, аказвае дапамогу калгаснікам і рабочым саўгасаў, ад імя выканкома абласнога Савета дэпутатаў, калегіі камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання выказваю вялікую падзяку за добрасумленную працу ў сёлетнім годзе, жадаю шчасця, матэрыяльнага дастатку, здароўя, ажыццяўлення намечаных планаў у нялёгкай штодзённай працы на карысць народа, у імя працвітання нашай роднай Беларусі.

## *Са святам вас, аграрнікі!*

**Мінскі абком прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу шчыра віншуе з прафесійным святам працаўнікоў палёў і ферм, механізатараў, рабочых і служачых, кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, саўгасаў, прадпрыемстваў перапрацоўчай прамысловасці, працаўнікоў навуковых і навучальных устаноў, ветэранаў працы, усіх членаў прафсаюза аграпрамысловай галіны Міншчыны.**

Жыццё, як і ўмовы надвор'я, ніколі не песціла селяніна. Надзвычай складаным і неспрыяльным выдаўся і сёлетні год. Але калі мы дзейнічаем разам, мы адолеем любыя выпрабаванні. Нягледзячы на вялікія цяжкасці і перашкоды работнікі аграпрамысловага комплексу вобласці прадэманстравалі найвышэйшы працоўны энтузіязм, настойлівасць, згуртаванасць і гаспадарскую вынаходлівасць. Вырашчаны і сабраны неблагі ўраджай збожжавых — па 28 цэнтнераў на круг. Не дапушчана зніжэння вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, а аб'ёмы вытворчасці прадуктаў харчавання нават павялічаны.

Мы цвёрда ўпэўнены, што работнікі сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці Міншчыны, дзейнічаючы ў цесным адзінстве і пад паўсядзённай абаронай прафсаюзных органаў, будуць і ў далейшым самаадданa працаваць кожны на сваім рабочым месцы, з гонарам вытрымаюць нялегкі экзамен, які задае ўсім нам цяперашні час.

Шчыра жадаем членам прафсаюза, усім работнікам аграпрамысловага комплексу вобласці добрага здароўя, поспехаў у вырашэнні складаных эканамічных і сацыяльных праблем.

Няхай у кожным працоўным калектыве, у кожнай вашай сям'і пастаянна прысутнічаюць дабрабыт, дастатак, узаемаразуменне, павага, шчырасць. Няхай не пакіне вас надзея, няхай спраўдзяцца вашы мары і планы!

*Прэзідыум Мінскага абкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу*

## "ПРАМАЯ ЛІНІЯ" са старшынёй аблвыканкома

У сераду, **23** лістапада, рэдакцыя газеты "Мінская праўда" арганізуе "прамую лінію" са старшынёй выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў **А.І.Цішкевічам.**

Званіце Альфонсу Ільічу з 10 да 13 гадзін 23 лістапада па тэлефонах **32-50-01** або **68-25-57**, і вы атрымаеце адказы на пытанні, якія вас цікавяць.

Можна таксама загадзя перадаць ці пераслаць поштай свае пытанні на адрас рэдакцыі.

**Крымінал**

## НЕ ХЛОПЧЫКІ ЯНЫ, — НАЛЁТЧЫКІ

Небывалая колькасць крадзяжоў, разбояў — звыш пяці тысяч — зарэгістравана ў рэспубліцы. Пачасціліся і выпадкі дзёрзкіх разбойных нападаў на кватэры.

Злачынцы ўжываюць усялякія хітрасці — прадстаўляюцца работнікамі ЖЭСа, энерганагляду, дзяржаўных і камерцыйных службаў. Часам разлічваюць і на бестурботнасць гаспадароў, якія без лішніх пытанняў даверліва расчыняюць дзверы. Часцей за ўсё так і адбываецца.

На званок паспешліва адчынілі дзверы невядомым гаспадары кватэры па вуліцы Пляханава ў Мінску. За памылку і даверлівасць жорстка паплаціліся. Выстралам з паляўнічага ружжа забіты гаспадар. Прыхапіўшы каштоўнасці, налётчыкі зніклі. Да гонару работнікаў міліцыі, якія вядуць пошук па "гарачых" слядах, злачынцаў злавілі.

Нярэдкія выпадкі, калі зламыснікі пранікаюць у кватэры, прыдумаўшы прычыну ажыццяўлення камерцыйнай здзелкі.

Прыкладаў, на жаль, больш чым дастаткова. І ўсе гэтыя злачынствы пакуль не могуць быць папярэджаны і раскрыты міліцыяй. Таму не праяўляйце бесклапотнасці, лішняй даверлівасці. Калі ўзніклі сумненні або падазрэнні, неадкладна званіце ў міліцыю. Але перш умацуйце ўваходныя дзверы, аснасціце іх ахоўным ланцужком, дзвярным вочкам. Зазірнуў "міліцыянер" — патрабуйце прад'яўлення пасведчання асобы. Ломіцца нехта ў дзверы — клічце на дапамогу суседзяў. Гэта дапаможа вам засцерагчы сябе, членаў сям'і ад злачынцаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ВЫХАПІЎ З АГНЮ

Гэты пажар узнік у вёсцы Трасцянка Бярэзінскага раёна. У агні апынуліся двое маленькіх дзяцей сям'і Лагуноўскіх. Не звяртаючы ўвагі на небяспеку, кінуўся ратаваць малышоў жыхар Беразіно Уладзімір Уладзіміравіч Стаброўскі, які ў той дзень наведаўся да родзічаў. Задыхаючыся ад дыму і гару, ён навобмацак адшукаў дзяцей. Смеласць і адвага рабочага РБУ-8 райцэнтра перамаглі ў паядынку з агнём. Пяцігадовая Наташа і трохгадовы Толя пасля паведамілі, што пажар узнік па іх віне. Яны знайшлі ў хаце запалкі і падпалілі цацку. Дзверы былі зачынены на замок, а бацькі адсутнічалі.

*Фёдар Сагановіч.*

